№ 22(46)
Лістапад 1999

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна—96"




Мінск, 24 лістапада 1999 г.

## Смутак і салідарнасьць

Тры гады таму 24 лістапада 1996-га году ў Беларусі пры непасрэдным удзеле "міратворцаў" з Расіі на чале з Чарнамырдзіным ды Селязьнёвым адбыўся дзяржаўны пераварот. Лукашэнка разагнаў абраны народам парламент, а тэрмін сваіх прэзідэнцкіх паўнамоцтваў працягнуў яшчэ на пяць гадоў. У гэты чорны для Беларусі дзень апазіцыя вырашыла выставіць на галоўным праспекце сталіцы краіны Жывую сьцяну Свабоды — правесьці акцыю пад назовам "Гадзіна смутку і салідарнасьці". Увечары, калі сьцямнела, на праспэкт Скарыны прыйшло каля дзьвюх тысячаў чалавек з запаленымі сьвечкамі і ліхтарыкамі ў руках. Людзі сталі ў жывы ланцуг, які расьцягнуўся ад плошчы Якуба Коласа да кінатэатру "Кастрычнік". Было холадна: мароз дапаўняў моцны вецер. Мінгарвыканкам правядзеньне акцыі ў цэнтры Мінску не дазволіў, у чарговы раз накіраваўшы арганізатараў і яе ўдзельнікаў у "рэзервацыю" — на плошчу Бангалор. І таму міліцыянты з машынаў праз узмацняльнікі ўвесь час паведамлялі людзям, што акцыя несанкцыянаваная, а, значыць, з усімі вынікаючымі адсюль наступствамі. Аднак тыя, хто ў гэтую сьцюжу выйшаў, каб засьведчыць свае смутак і салідарнасьць мужна вытрымалі ўсе выпрабаваньні. Акцыя доўжылася акурат гадзіну.

Пасьля акцыі міліцыянты затрымалі шэсьць чалавек: Цімафея Дранчука, Ігара Варанцова, Аляксея Маўчанскага і трох непаўнагадовых. Нязвыкла мала, калі ўлічыць, што сярод удзельнікаў акцыі былі людзі з такімі ненавіснымі ўладам бел-чырвона-белымі сьцягамі і лозунгамі "Расея — вайна".

Антырасійскія лозунгі зьявіліся на акцыі невыпадкова. На 26 лістапада Лукашэнка з Ельцыным запланавалі ў Крамлі падпісаньне дамовы аб утварэньні адзінае дзяржавы Беларусі ды Расіі. У той вечар намер гэты здаваўся яшчэ цалкам сур'ёзным (пра "перанясеньне" падпісаньня ў сувязі з "хваробай" Ельцына ніхто не здагадваўся), а таму людзі выйшлі на сьцюдзёную вуліцу, каб зноў і зноў засьведчыць і сваю нязгоду з маючым адбыцца узьяднаньнем. Дарэчы, калі афіцыйнае беларускае тэлебачаньне сьцьвярджае, што супраць саюзу з Расіяй выступаюць толькі 3 працэнты беларусаў, дык праведзеныя незалежнымі арганізацыямі сацыялагічныя апытаньні даюць зусім іншыя вынікі: "за" — 35 працэнтаў, а "супраць" — 37... Прычым, "за" у асноўным людзі старыя, а "супраць" — моладзь.

"Гадзіна смутку і салідарнасьці" пацьвердзіла той факт, што нягледзячы на ўсе запалохваньні і рэпрэсіі ўладаў беларуская апазіцыя мае вялікі патэнцыял. Наступным Маршам Свабоды быць. Напрыканцы зімы і напачатку вясны ўжо нішто ня будзе стрымліваць людзей ад выхаду на акцыі пратэсту: ні надвор'е, ні страх...

Андрэй НАЛІВА

## Хроніка

*15 лістапада* А.Лукашэнка рэзка адмоўна ацаніў пратакол пра доступ беларускай палітычнай апазіцыі да дзяржаўных СМІ, падпісаны падчас кансультацыяў паміж уладамі і апазіцыяй. Выступаючы на нарадзе, прысьвечанай удзелу Беларусі ў Стамбульскім саміце АБСЕ, А.Лукашэнка заявіў, што гэты дакумент супярэчыць усім цывілізаваным нормам. Пры гэтым ён спаслаўся на практыку, якая нібыта існуе ў іншых дзяржавах: "У Вялікабрытаніі, да прыкладу, ёсьць партыйныя выданьні, якія асьвятляюць дзейнасьць лейбарыстаў і кансерватараў. І ніхто там ня ставіць пытаньне аб тым, каб лейбарысты прэтэндавалі на СМІ кансерватараў і наадварот.".

*15 лістапада* вядомы ў Беларусі адвакат Гары Паганяйла зьвярнуўся з зыскавай заявай ў суд Ленінскага раёну г. Мінску. У якасьці адказчыка па справе заяўленыя Адміністрацыя прэзідэнта РБ і старшыня Камітэту дзяржаўнай бясьпекі РБ Уладзімір Мацкевіч. Нагодай да падачы заявы зьявілася паведамленьне, якое прагучала ў праграме "Панарама" 30 жніўня г.г. аб тым, што "распараджэньнем прэзідэнта Беларусі была створаная міжведамасная камісія пад кіраўніцтвам старшыні КДБ Уладзіміра Мацкевіча, у якую ўвайшлі вядучыя юрысты і сьпецыялісты ў вобласьці заканадаўства і права. Мэта камісіі — падрыхтоўка дакументаў кіраўніку дзяржавы па гэтак званых гучных крымінальных працэсах, выказваньне свайго пункту погляду ня толькі на вынік расьследваньня, прыняцьця рашэньняў па крымінальных справах, але і па ходзе сьледзтва". Адвакат Гары Паганяйла лічыць, што "створаная новая антыканстытуцыйная структура, якая практычна робіць замах на кампетэнцыю Генеральнага пракурора і ніжэйстаячых пракурораў па кантролю за законнасьцю".

(Працяг на стар.6-7)

# Валеры ШЧУКІН: "Зьбіцьцё апазіцыянераў для іх стала нормай..."


Валеры ШЧУКІН

***Пасьля Маршу Свабоды, які адбыўся 17 кастрычніка, пракуратурай гораду Мінску ўзбуджаная крымінальная справа па факце падзеяў, створаная працоўная сьледчая група, якая вядзе расьсьледаваньне сутычкі ўдзельнікаў акцыі з міліцыянтамі. Як мы паведамлялі, па ўзбуджанай крымінальнай справе было затрымана шэсьць чалавек, якія абвінавачваюцца па Арт. 186.3 КК РБ: "арганізацыя ці актыўны ўдзел у групавых дзеяньнях, якія парушаюць грамадзкі парадак". Па гэтым абвінавачваньні быў затрыманы дэпутат Вярхоўнага Савету РБ 13-га скліканьня, праваабаронца, карэспандэнт газеты "Народная воля" Валеры Шчукін. Яму, згодна з беларускім заканадаўствам, пагражае пазбаўленьне волі на тэрмін да трох гадоў альбо папраўчыя работы на тэрмін да 2-х гадоў ці штраф. Валеры ШЧУКІН адказаў на колькі пытаньняў карэспандэнта "ПРАВА на ВОЛЮ".***

***— Валеры Аляксеевіч, як вядома, вы былі адным з заяўляльнікаў Маршу Свабоды. Ці ня лічыце вы, што гэты факт мог стаць прычынаю такой жорсткай рэакцыі праваахоўчых органаў менавіта ў адносінах да вас?***

— Я лічу, што ў маіх дзеяньнях не было нават складу адміністратыўнага правапарушэньня. Заяўляльнік акцыі гэта адное, а арганізатар — зусім іншае... Магу толькі адзначыць, што з боку праваахоўных органаў падчас майго затрыманьня быў дапушчаны шэраг супрацьпраўных дзеяньняў: незаконнае затрыманьне, зьбіцьцё, зьдзекі, зьняволеньне ў ізалятар часовага ўтрыманьня ды інш. Зрэшты, чаго зьдзіўляцца, падобныя паводзіны для ўладаў даўно сталі нормай.

***— Валеры Аляксеевіч, раскажыце падрабязней, як праходзіла тое затрыманьне. Вас сапраўды арыштоўвалі супрацоўнікі ажно чатырох мінскіх райаддзелаў міліцыі?***

— Так. На наступны дзень пасьля акцыі, прыблізна а дзесятай гадзіне раніцы, да маёй дачкі прыходзіў участковы, каб пацікавіцца, дзе я цяпер знаходжуся і калі звычайна вяртаюся дахаты. Распытваў таксама пра мяне суседзяў . Пры гэтым ён выдаў дачцы позву на тое, каб я зьявіўся ў Фрунзенскі РАУС. Назаўтра са свайго месца працы я патэлефанаваў участковаму і папрасіў, каб той патлумачыў, з якой знагоды мяне выклікаюць у РАУС. Ён спакойна паведаміў, што хоча ўдакладніць маё месца жыхарства.

Пасьля майго званка, прыблізна праз гадзіну, у рэдакцыю зьявіўся лейтэнант міліцыі з Ленінскага РАУС і папрасіў мяне прайсьці з ім. Пасьля маёй нязгоды ён выпісаў позву ў Маскоўскі РАУС. Потым мяне даставілі ў РАУС Фрунзенскага раёну, дзе скруцілі, інакш гэта і не назавеш, і перавезьлі ў РАУС Савецкага раёну. Там я быў афіцыйна затрыманы па Арт. 119 КК РБ.

Такім чынам, як бачыце, дзеля майго затрыманьня былі задзейнічаны супрацоўнікі Ленінскага, Маскоўскага, Фрунзенскага і Савецкага РАУСаў.

Паўтару: само затрыманьне адбывалася з парушэньнем усіх мажлівых і немажлівых працэсуальных ды іншых нормаў.

Дзеля таго, каб узяць у чалавека нейкія сьведчаньні ці тлумачэньні, яму павінны выпісаць позву. Калі чалавек ня зьявіцца ў прызначаны тэрмін, тады адпаведная службовая асоба, пракурор альбо начальнік аддзелу, прымаюць рашэньне аб прымусовай дастаўцы яго. Тое ж тычыцца і суда. У маім жа выпадку, выпісаўшы позву ў Фрунзенскі РАУС, мяне гвалтоўна адканваіравалі ў Савецкі РАУС.

Пры дастаўцы мяне зьбівалі, прычым настолькі моцна, што ўжо прайшло больш за 10 дзён, а ў мяне дагэтуль баліць сьпіна.

***— Прозьвішчы людзей, якія гэта рабілі, ведаеце?***

— Не. Мяне цягнулі сілаю і я ня змог нават званьне разгледзець тых, хто гэта рабіў, а ня тое, што спытать іх прозьвішчы. Потым дзяжурны біў мяне сваімі чаравікамі па нагах, а затым, разуўшы мяне, заштурхнуў у камеру. Пасьля да мяне асабіста прыйшоў начальнік РАУСу і ветліва папрасіў прайсьці з ім. У кабінеце, у які мы зайшлі, ужо сядзеў сьледчы. Ён стаў адразу ж афармляць неабходныя дакументы. Я заявіў, што ў мяне ёсьць мой прадстаўнік, і, у адпаведнасьці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, я маю права на юрыдычную дапамогу ў любым дзяржаўным органе і ў любы час. Мне было адмоўлена ў гэтым, што ёсьць парушэньне майго канстытуцыйнага права на юрыдычную дапамогу. Тады я запатрабаваў адваката. Сьледчы зьвязаўся з ім. Адвакат быў заняты, таму мяне адвезьлі ў ізалятар часовага ўтрыманьня, а допыт перанесьлі на наступны дзень. У ізалятары я праседзеў тры дні, і пасьля вынясеньня абвінавачаньня па Арт. 186.3 КК РБ, мяне накіравалі ў сьледчы ізалятар па вуліцы Валадарскага.

Гэта добра, што я ведаю парадкі і законы. А на людзей, якія трапляюць у падобную сітуацыю ўпершыню, спрабуюць рабіць уціск, пазбаўляюць іх юрыдычнае дапамогі і любым чынам стараюцца выбіць прызнаньне.

Пасьля допыту, які вёў намесьнік пракурора гораду, мне была вынесеная мера стрыманьня — арышт.

Я праседзеў у сьледчым ізалятары два тыдні і за гэты час са мною не было праведзена ніводнага сьледчага эксьперыменту, не высьвятляліся падрабязнасьці маіх дзеяньняў падчас акцыі апазіцыі. Пыталіся ў мяне толькі пра адно: хто быў са мною побач, хацелі, каб я назваў прозьвішчы...

А потым мера стрыманьня была зьмененая на падпіску аб нявыезьдзе і мяне адпусьцілі на волю...

**Гутарыў**
**Андрэй ЮРЭВІЧ**

***P.S.* Апроч іншага, у адносінах да Валерыя Шчукіна каторы ўжо раз была парушаная і дэпутацкая недатыкальнасьць. На ягоны арышт легітымны Вярхоўны Савет РБ 13-га скліканьня згоды не даваў, як таго патрабуе заканадаўства.**

# Абаронім незалежнасьць

20 лістапада ў Гродне гарадзкія арганізацыі БНФ і БСДП правялі ў горадзе шэраг несанкцыянаваных пікетаў, скіраваных на абарону незалежнасьці Беларусі, супраць падпісаньня дамовы аб утварэньні адзінай дзяржавы з Расіяй. Пікеты праходзілі пад лозунгамі: "Не — акупацыі Беларусі!", "Беларусь — наш дом!", "Рукі прэч ад Беларусі!"

Заяўкі на правядзеньне 12 пікетаў у розных месцах горада былі пададзеныя мясцовымі суполкамі БНФ і БСДГ яшчэ 4 лістапада, аднак гарадзкія ўлады не далі дазволу на гэта.

Падчас пікетаў міліцыянты і супрацоўнікі мясцовага КДБ затрымалі Міколу Ворана, Алеся Міхальчыка, Алеся Астроўскага, Міхася Патрэбу, братоў Валянціна і Алеся Аскірак.

Алеся Міхальчыка і Алеся Астроўскага пратрымалі ў сьледчым ізалятары да 22 лістапада, а астатніх арыштаваных выпусьцілі праз тры гадзіны пасьля затрыманьня.

22 лістапада адбыліся суды над удзельнікамі акцыяў. Прафесар Гродзенскага медінстытуту доктар медыцынскіх навук Алесь Астроўскі атрымаў двое сутак арышту, якія ўжо адсядзеў да суда...

**Наш кар.**

 



# За перформанс – два гады зьняволеньня...

*"Пасьля арышту*
*я меў добры настрой:*
*усё, што хацеў зрабіць – зрабіў".*
А. Пушкін. (З паказаньняў).

24 лістапада, якраз на ўгодкі так званага рэферэндуму 1996 году, у беларускай сталіцы распачаўся чарговы палітычны працэс. У Ленінскім раённым судзе Мінску разглядалася крымінальная справа вядомага мастак Алеся Пушкіна. Забягаючы наперад, зазначым, што разгляд справы адбыўся досыць хутка – усяго за пару гадзінаў. Аднак абвяшчэньне тэксту прысуду судзьдзя Сяргей Хрыпач перанёс на сярэдзіну наступнага дня.

Абаронцамі Алеся Пушкіна на працэсе выступалі адвакат Ларыса Атаманчук і грамадзкі абаронца ад "Вясны" Барыс Гюнтэр. Што ж да складу судовай калегіі, дык побач са старшынюючым судзьдзёй С.Хрыпачам сядзелі двое ня проста маўклівых, але яшчэ і вельмі старых людзей. Пра такіх раней казалі: "Яны бачылі самога Леніна".

### Вазок гною – "асаблівы цынізм"...

Перадгісторыя працэсу ў Ленінскім судзе добра вядомая — 21 ліпеня, калі скончыўся тэрмін праўленьня Лукашэнкі, фота з кадрамі пушкінскай акцыі абышло, бадай, увесь сьвет. Улады пераклалі апісаньне дзеяньняў мастака на сваю родную мову. Гэта мова крымінальнага кодэксу. Такім чынам, Алесь Пушкін абвінавачваўся па двух крымінальных артыкулах: "злоснае хуліганства" і "зьнявага дзяржаўных сімвалаў". Кажучы словамі абвінаваўчага заключэньня, "... 21 ліпеня 1999 г. , праяўляючы выключны цынізм, знаходзячыся каля 1-га пад'езду рэзідэнцыі прэзідэнта, дэманстратыўна прыкаціў вазок з гноем, пад якім ляжалі дзяржаўны герб, дзяржаўны сьцяг, партрэт прэзідэнта..." Далей згадваецца пра вілы і шыльду на вазку: "За пяцігадовую плённую працу".

Як пазьней адзначылі мае калегі, сам падсудны заняў на судзе вельмі сьмелую пазіцыю. На самой справе, тактыка Пушкіна палягала ў прылюдным прызнаньні нават такіх падрабязнасьцяў акцыі, пра якія прадстаўнікі рэжыму ўжо мо й забыліся. Мастак падкрэсліваў пры гэтым і значнасьць даты 21 ліпеня як канца лукашэнкавай легітымнасьці, і сваё імкненьне выказаць пратэст ад вельмі вялікай часткі беларускага грамадзтва. Ніякага намеру абразіць чые б то ні было пачуцьці ў Алеся Пушкіна не было, і як мастак па прафесіі ды прызваньні, ён ня мог пратэставаць неўласьцівымі яму гвалтоўнымі метадамі. Як, зрэшты, ня змог і маўчаць.

"Почырк беларускай апазіцыі – ня кроў, не вайна, а змаганьне вось такімі высокамастацкімі акцыямі," – адзначыў Алесь, для параўнаньня прыгадаўшы трагічныя падзеі ў парламенце Арменіі ды іншыя падобныя прыклады. Але нават пасьля такой мірнай акцыі пратэсту, як дастаўка да "прэзідэнцыі" вазка з гноем і віламі, Пушкін як мага хутчэй наведаў царкву. Па ягоным прызнаньні, у першую ж нядзелю ў праваслаўным храме ў родным мястэчку Бобр Мінскай вобласьці, ён спавядаўся сьвятару ў граху "зьбянтэжаньня сэрцаў". Чаму той, каго рэжым вінаваціць у злачынстве, не прызнае сябе вінаватым на судзе, але просіць Бога адпусціць яму грэх? "Таму.— тлумачыць Пушкін — што падчас маёй акцыі побач маглі сабрацца людзі з рознымі поглядамі ды, крый Божа, давесці спрэчку да сутычак.

Алесь Пушкін не хаваў, што рыхтаваў сваю акцыю задоўга да 21 ліпеня, і ў гэтым яму таемна дапамагалі некалькі аднадумцаў у Мінску (сам Пушкін жыве ў Крупскім раёне Мінскай вобласьці). Імёнаў сваіх памочнікаў мастак, аднак, не назваў, ня выдаў. Затое многіх уразіла тая адкрытасьць, з якой мастак з сябрамі прывезьлі вазок (і ўсё астатняе) да Купалаўскага тэатру, што побач з рэзідэнцыяй прэзідэнта. Кіроўца машыны, ня ведаючы, што вязе, пры набліжэньні да вуліцы Карла Маркса, 38, усё ж трохі дрыжэў – баяўся аховы Лукашэнкі і ДАІ...

"Як законапаслухмяны грамадзянін, я прызнаваў перамогу А. Лукашэнкі на выбарах у 1994-м годзе, але не магу пагадзіцца з вынікамі "рэферэндуму" і працягам прэзідэнцкага тэрміну. Да таго ж, калі ты бярэшся будаваць дзяржаву і за 5 гадоў змог зрабіць толькі тое, што сімвалічна ўкладаецца ў вазок гною – не бярыся за гуж, калі ня дзюж", — заявіў на працэсе А.Пушкін.

### "Зона недатыкальнасьці", альбо Сьведчаньні міліцыянтаў

Роўна палова сьведкаў-міліцыянтаў – двое з чатырох – на суд не зьявіліся. З дазволу падсуднага іх – ня сталі турбаваць. Сьведчаньняў і так хапіла. Сам Алесь Пушкін горача зазначаў, што "міліцыянеры гавораць усю праўду!" Адчувалася, што і яны ставяцца да мастака-патрыёта з пэўнай сімпатыяй. Міліцыянты, здаецца, нават баяліся "ляпнуць" лішняе ды нашкодзіць гэтым самым мастаку.


Алесь ПУШКІН

Першы з ахоўнікаў рэзідэнцыі, Віктар Фаменка, спачатккy заўважыў групу журналістаў, якія нешта фатаграфавалі і здымалі на відэа (А.Пушкін пра сваю акцыю-перформанс абвесьціў загадзя). Вазок з гноем каля будынку "патрона" зьдзівіў хлопца настолькі, што ён ня памятае нават, што менавіта праткнуў віламі Пушкін. Прычынай затрыманьня мастака сьведка назваў "спробу патрапіць у будынак рэзідэнцыі" — перасячэньне забароненай для простых грамадзянаў зоны каля ўваходу. Другі сьведка, які 21 ліпеня ўзначальваў ахову будынка, Генадзь Міцяга, удакладніў сутнасьць "віны" мастака так: "Хоць ён (Пушкін) і перасёк на некалькі крокаў пляцоўку, чым парушыў інструкцыю службы аховы, парушэньнем закону гэта не зьяўляецца". Але калі б Алесь зрабіў тую ж самую акцыю на метраў 20-30 далей, каля купалаўскага тэатру, паводле словаў сьведкі, ніякай "абразы" і ніякага "хуліганства" не было б. Фактычна, ахоўнікі засьведчылі своеасаблівасьць статусу пляцоўкі вакол "прэзідэнцыі", а не злачынства Пушкіна. Пры гэтым міліцыянты мэтай акцыі назвалі ўсяго толькі жаданьне мастака зьвярнуць увагу мінакоў і выклікаць пэўны рэзананс. Ніякага злога намеру або "асаблівага" (неасаблівага таксама) цынізму ў гэтым яны ня ўбачылі...

### "Не крымінал, а твор мастацтва"

Хоць судовая калегія і адмовіла ў правядзеньні мастацтвазнаўчай

(Працяг на стар. 7)



 

# "Дэмакратычныя зьмены ў Беларусі — толькі пытаньне часу..."

*У лістападзе ў Мінску адбылася канферэнцыя па эфектыўнасьці прадастаўленьня юрыдычнай дапамогі насельніцтву і гарантыях абароны працы юрыстаў, на якой выступіў сакратар Дзяржаўнага дэпартаменту ЗША па пытаньнях дэмакратыі, правоў чалавека і працы Гаральд Хонгжу КОУ. Прапануем увазе чытачоў "ПРАВА на ВОЛЮ" прамову спадара Коу (з невялікімі скарарачэньнямі).*



Г. Х. КОУ

...Я прыехаў у Мінск з Турцыі, са Стамбула, дзе правёў некалькі дзён у абмеркаваньнях таго, што АБСЕ называе "чалавечым вымярэньнем" альбо прыхільнасьцю да правоў чалавека, у ходзе падрыхтоўчай сустрэчы, арганізаванай АБСЕ. Учарашнія пасяджэньні супалі з дзесятай гадавінай адной з найбольш важных вехаў у гістарычнай барацьбе за правы і свабоды чалавека — падзеньнем Берлінскай сьцяны. Гэтая падзея для большай часткі Еўропы азначала пачатак канца таталітарнага кіраваньня. І хоць пасяджэньні ў Стамбуле праходзілі ў Кіраганцкім палацы, прадмет абмеркаваньня на іх — як і на гэтай канферэнцыі — нагадаў мне пра гутаркі, якія адбываліся ў маёй сям'і за полуднем яшчэ калі быў я маленькім. Мой бацька, Кванг Лім Коу, быў юрыстам і актывістам дэмакратычнага руху. На працягу нейкага часу ён прадстаўляў Паўднёвую Карэю як дыпламат, пакуль дэмакратычнае кіраўніцтва там не было скінутае ў выніку вайсковага перавароту, і ён быў вымушаны зьехаць у Злучаныя Штаты, дзе я і вырас. Менавіта ў сям'і я ўпершыню пачуў і навучыўся паважаць найбольш блізкія маім бацькам каштоўнасьці: правы чалавека, павагу да свабоды іншых людзей, дэмакратычнае прынцыпе рашэньняў і вяршэнства закону.

> **...вяртаньне пасла Сьпекхарда не азначае нармалізацыі адносінаў паміж нашымі краінамі. Адносіны ня могуць быць і ня будуць нармалізаваныя, пакуль кіраўніцтва Беларусі ня зробіць канкрэтныя крокі дзеля ўсталяваньня дэмакратычных нормаў, захаваньня правоў чалавека і вяршэнства закону...**

Такія нефармальныя гутаркі — ці то ў сям'і ў Амерыцы, ці на гэтай канферэнцыі ў Беларусі — уяўляюць сабою падмурак дэмакратычнага грамадзтва... Ролю такіх абмеркаваньняў цудоўна разумела Элеанор Рузьвельт, якая адыграла важнейшую ролю ў складаньні і абнародваньні Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. "Правы чалавека, — казала яна,— пачынаюцца з малога, пачынаюцца паблізу вашага ўласнага дома — настолькі малога і настолькі блізкага, што гэтыя мясьціны немагчыма разгледзець на мапе сьвету... з невялікага кварталу, у якім жыве чалавек, са школы і каледжа, у якім ён вучыцца, з прадпрыемства, фермы ці ўстановы, дзе ён працуе. Менавіта ў гэтых месцах кожны мужчына, кожная жанчына, кожнае дзіця дабіваецца справядлівасьці, роўных магчымасьцяў, адсутнасьці дыскрымінацыі і сьцьвярджэньня ўласнае годнасьці. Калі гэтыя каштоўнасьці не прызнаюцца ў гэтым акружэньні, то яны будуць мець яшчэ меншае значэньне ў іншых месцах"...

На жаль, гэтыя ўсеагульныя каштоўнасьці хоць і прызнаюцца многімі, аднак яшчэ часта аспрэчваюцца. Занадта шмат якія ўрады працягваюць адмаўляць сваім грамадзянам у праве на выбар уладаў. Кіраўнікі краінаў гавораць пра дэмакратыю, адначасова фальсіфікуючы выбары, закрываючы раты сваім апанентам і зацікаючы прэсу. Нягледзячы на паўстагодзьдзевую гісторыю існаваньня Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека ды іншых міжнародных дамоваў, яны працягваюць вышукваць шляхі падрыву, зацісканьня і абмежаваньня разьвіцьця грамадзянскага грамадзтва, правоў чалавека і вяршэнства закону. Злучаныя Штаты глыбока заклапочаныя сітуацыяй у Беларусі. У адносінах да гэтай краіны мы ўстанавілі палітыку "выбарчых кантактаў", абмежаваўшы колькасьць і ўзровень афіцыйных кантактаў, адначасова захоўваючы і разьвіваючы нашыя адносіны з дэмакратычнымі сіламі, незалежнымі СМІ і няўрадавымі арганізацыямі. Мы перапынілі прадастаўленьне любой дапамогі ўраду, акрамя гуманітарнай дапамогі установам аховы здароўя і адукацыі.

Як вам вядома, пасол Сьпекхард вярнуўся ў верасьні гэтага году, пасьля вырашэньня канфлікту, зьвязанага з парушэньнем кіраўніцтвам Беларусі прынцыпаў Венскай канвенцыі пра недатыкальнасьць дыпламатычных рэзідэнцыяў. Але я хачу запэўніць вас, што вяртаньне пасла Сьпекхарда не азначае нармалізацыі адносінаў паміж нашымі краінамі. Адносіны ня могуць быць і ня будуць нармалізаваныя, пакуль кіраўніцтва Беларусі ня зробіць канкрэтныя крокі дзеля ўсталяваньня дэмакратычных нормаў, захаваньня правоў чалавека і вяршэнства закону.

Пра якія канкрэтныя крокі мы кажам? Як вашая краіна можа прадэманстраваць сваю "дэмакратычнасьць"? Я назаву тут чатыры асноўныя складальныя: свабоду волевыяўленьня людзей, грамадзянскае супольнасьць, вяршэнства закону ды інфармаванасьць грамадзянаў.

> **...у Беларусі тыя, хто вырашыў казаць уладам праўду, рызыкуюць сваёй воляй і нават жыцьцём...**

Пачнем з волевыяўленьня людзей. Мая краіна ведае на ўласным цяжкім вопыце, што ўсталяваньне дэмакратыі — гэта доўгі і складаны працэс, у ходзе якога нішто не даецца без барацьбы. "Народаўладзьдзе" ня можа быць накіраванае звонку; народ павінен прайсьці шлях да дэмакратыі самастойна... У Беларусі рэжым імкнецца задушыць дэмакратыю. Ім былі выкарыстаныя неканстытуцыйныя метады дзеля зьмяненьня канстытуцыі краіны, а потым і перапрацаваная канстытуцыя дзеля падрыву і замены легітымных дэмакратычных інстытутаў. Легітымнасьць можа быць адноўленая толькі шляхам свабодных і справядлівых дэмакратычных выбараў, у якіх павінен быць забясьпечаны ўдзел усіх на роўнай аснове, і аднаўленьнем неабходнага механізму стрымліваньня і ўраўнаважваньня паміж галінамі ўлады.

Другім ключавым элементам дэмакратыі зьяўляецца грамадзянская супольнасьць. Ажыцьцяўленьне дэмакратычных прынцыпаў азначае нашмат больш, чымсьці проста правядзеньне выбараў і рэферэндумаў. Павольнае прасоўваньне да дэма-

 

кратыі ў шэрагу краінаў прадэманстравала, што выбары самі па сабе нельга разглядаць як канчатковую мэту, а толькі як спосаб дасягненьня такой палітычнай сістэмы, ва ўмовах якой становяцца магчымымі разьвіцьцё і самарэалізацыя грамадзянаў у выніку павелічэньня і абароны іх палітычных і грамадзянскіх правоў. Дэмакратыя патрабуе поўнага станаўленьня грамадзянскай супольнасьці: разнастайнасьці палітычных партыяў, незалежных прафсаюзаў, незалежных СМІ, няўрадавых арганізацыяў, жаночых рухаў, клубаў і таварыстваў, якія прыцягваюць людзей да ўдзелу ў грамадзкім і палітычным жыцьці. Аб'яднаньні, падобныя да тых, якія шмат хто з вас тут прадстаўляе, служаць важным інструментам вольнага выказваньня людзьмі свайго незадавальненьня "палітыкай па-старому". Менавіта з прычыны ўплыву грамадзянскай супольнасьці шмат якія ўрады імкнуцца абмежаваць яе альбо цалкам раздушыць...

**...арышты, зьнікненьні і ўцёкі значна згусьцілі атмасферу страху, існуючую ў Беларусі, і далі зразумець, што грамадзяне, якія пярэчаць уладам, знаходзяцца пад сур'ёзнай пагрозай...**

У Беларусі тыя з вас, хто вырашыў казаць уладам праўду, рызыкуюць сваёй воляй і нават жыцьцём. Былы прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір, дэпутаты Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Анатоль Лябедзька і Валеры Шчукін, лідэр Сацыял-дэмакратычнай партыі Мікола Статкевіч — вось толькі некаторыя з вялікай колькасьці апазіцыйных палітыкаў, якія былі пакараныя турэмным зьняволеньнем за мірнае выказваньне сваіх палітычных перакананьняў. Шмат хто затрымліваўся на доўгі тэрмін без прад'яўленьня якіх-небудзь абвінавачаньняў. Іншыя, як Віктар Ганчар, Юры Красоўскі, генерал Юры Захаранка, Тамара Віньнікава, зьніклі. Некаторыя, як Сямён Шарэцкі і Зянон Пазьняк, выехалі за мяжу, аберагаючы сваю бясьпеку. Разам узятыя, гэтыя арышты, зьнікненьні і ўцёкі значна згусьцілі атмасферу страху, існуючую ў Беларусі, і далі зразумець, што грамадзяне, якія пярэчаць уладам, знаходзяцца пад сур'ёзнай пагрозай. Злучаныя Штаты, а таксама Эўрапейскі Саюз і АБСЕ заклікаюць беларускае кіраўніцтва вызваліць тых, хто быў затрыманы за выкарыстаньне свайго права на свабоду выказваньня сваіх думак і захоўваць міжнародна прызнаныя правы чалавека і асноўныя свабоды, уключаючы свабоду волявыяўленьняў...

...Адважныя беларускія праваабаронцы гавораць за тых, хто ня можа пастаяць за сябе сам. У мінулым стагодзьдзі беларускія патрыёты змагаліся "за нашую і вашую волю", а сёньня беларускія праваабаронцы змагаюцца за ўсеагульныя правы. Аднак рэжым перасьледаваў, адкрываў крымінальныя справы альбо адхіляў ад юрыдычнай практыкі незалежных юрыстаў, такіх як Вера Страмкоўская, Надзея Дударава, Гары Паганяйла і Мячыслаў Грыб, якія бралі на сябе абарону грамадзянаў у палітычна матываваных справах. Мы заклікаем рэжым Лукашэнкі спыніць перасьлед і напады на праваабаронцаў і захоўваць правы чалавека на свабоду волевыяўленьня, свабоду асацыяцыяў і сходаў. Мой урад зьвяртаецца таксама да беларускіх уладаў з заклікам адмяніць дзеяньне прэзідэнцкага дэкрэту №12, аднавіць правы Гары Паганяйлы, Надзеі Дударавай і Мечыслава Грыба на адвакацкую дзейнасьць і стварыць умовы дзеля нармальнае працы незалежных юрыстаў і прыватных юрыдычных фірмаў.

Трэцяй складальнай часткаю сапраўднай дэмакратыі зьяўляецца вяршэнства закону... Гісторыя паказвае, што грунтоўнае вяршэнства закону садзейнічае ўстойліваму эканамічнаму разьвіцьцю, барацьбе з карупцыяй, захаваньню сацыяльнай стабільнасьці і міру і стварэньню неабходнае прасторы дзеля індывідуальнай палітычнай і эканамічнай дзейнасьці. Вяршэнства закону дае кожнаму грамадзяніну магчымасьць патрабаваць справаздачы ад лідэраў нацыі і інстытутаў як дзяржаўных, так і прыватных...

У краінах сапраўднай дэмакратыі такое ўсёпранікненьне выканаўчай улады абмяжоўваецца чацьвёртай складальнай часткаю дэмакратыі: наяўнасьцю незапрыгоненых розумаў і інфармаванага электарату. Толькі свабодныя СМІ — друкаваныя і электронныя — у стане гарантаваць доступ грамадзянаў да інфармацыі, неабходнай дзеля прыняцьця палітычных рашэньняў. Калі ўрад здольны кантраляваць інфармацыю альбо абмежаваць свабоду прэсы, то ён, як правіла, здольны ўплываць на вынікі выбараў, ствараць перашкоды разьвіцьцю грамадзянскай супольнасьці і кіраваць судовай уладай. Паўсюль у сьвеце журналісты нясуць насельніцтву праўду, рызыкуючы патрапіць пад перасьлед, быць арыштаванымі, зьняволенымі і нават забітымі. У Беларусі рэжым змагаецца з крыткай, накладаючы абмежаваньні на СМІ. Нават доступ у Інтэрнет абмежаваны правайдэрамі дзяржаўнай формы ўласнасьці. Гэтыя меры не спынілі намаганьняў такіх журналістаў як Павел Жук і Павел Шарамет, якія, каб сказаць праўду, патрапілі пад перасьлед, забарону на перасоўваньне, адмену акрэдытацыі і нават турэмнае зьняволеньне. Нядзіўна, што амерыканская няўрадавая арганізацыя Камітэт абароны журналістаў на працягу трох гадоў запар адносіць беларускі рэжым да ліку дзесяці найзлоснейшых ворагаў прэсы.

**...калі ўрад здольны кантраляваць інфармацыю альбо абмежаваць свабоду прэсы, то ён, як правіла, здольны ўплываць на выніку выбараў, ствараць перашкоды разьвіцьцю грамадзянскай супольнасьці і кіраваць судовай уладай...**

У агульных словах, сёньняшняе кіраўніцтва Беларусі адмежавала краіну ад сусьветнага дэмакратычнага разьвіцьця. Яно парушае свабоду волевыяўленьня людзей, прынцыпы грамадзянскай супольнасьці, вяршэнства закону і бясперашкоднага доступу насельніцтва да інфармацыі, якія характарызуюць сапраўднае дэмакратычнае кіраўніцтва. Менавіта дзеля пастаяннага характару гэтых праблемаў, а не з прычыны асобных выпадкаў, я і знаходжуся сёньня ў Беларусі...

Усяго дзесяць гадоў таму, у разгар "халоднай вайны", шмат хто лічыў, што мы ніколі ня ўбачым падзеньня Берлінскай сьцяны. Мы ўпэўніліся, што гэта ня так. Некаторыя сумняваюцца, што мы хутка ўбачым сапраўды дэмакратычную Беларусь, прыхільную да правоў чалавека і вяршэнства закону. Аднак гісторыя вучыць, што дэмакратычныя пераўтварэньні ў Беларусі — толькі пытаньне часу. Я з нецярпеньнем буду чакаць таго дня, калі ў недалёкай будучыні мы ўсе зноў зможам сабрацца ў Мінску, каб адсьвяткаваць перамены.

*Мінск, 10 лістапада 1999 г.*

## Кангрэс ЗША турбуецца пра Беларусь

***У лістападзе, падчас Саміту АБСЕ ў Стамбуле, Кангрэс ЗША прыняў жорсткую рэзалюцыю, у якой асуджаецца сёньняшні рэжым у Беларусі. Кангрэсмены заклікалі да неадкладнага пачатку дыялогу паміж урадам і Кансультатыўнай радай апазіцыйных палітычных партыяў, да аднаўленьня дэмакратычнага кіраваньня ў краіне, запатрабавалі ад беларускага лідэра павагі да правоў усіх грамадзянаў, заклікалі Лукашэнку стрымаць сваё абяцаньне і правесьці свабодныя і справядлівыя выбары ў парламент у 2000-ым годзе. Акрамя таго, Кангрэс падтрымаў зварот Кансультатыўнае рады апазіцыйных палітычных партыяў да ўраду і Федэральнага Сходу Расіі аб спыненьні падтрымкі рэжыму Лукашэнкі. Кангрэсмены таксама настойваюць на тым, каб Біл Клінтан працягнуў фінансаваньне паездак беларускіх апазіцыянераў у ЗША і дзейнасьць няўрадавых арганізацыяў у Беларусі... Сенатар Дурбін падкрэсьліў, што ў лістападзе 1996-га году Лукашэнка "навязаў краіне новую канстытуцыю, якая разбурыла дэмакратыю, што нараджалася, і ператварыла Беларусь у паліцэйскую дзяржаву савецкага тыпу".***



 

*26 лістапада* ў судзе Цэнтральнага раёну г.Мінску судзьдзя Анатоль Барысёнак разгледзеў матэрыял адміністратыўнай справы, якая была ўзбуджаная пракуратурай Цэнтральнага раёну г.Мінску згодна з прадастаўленымі ў суд пратаколамі. Старшыня ПЦ «Вясна» А.Бяляцкі, які адначасова зьяўляецца галоўным рэдактарам праваабарончага бюлетэня «ПРАВА на ВОЛЮ», абвінавачваўся ў парушэньні Арт. 172.1 ч.8 КаАП РБ (незаконны выраб і распаўсюджваньне прадукцыі — сродка масавай інфармацыі). З матэрыялаў, якія прадставіла пракуратура, вынікала, што некаторыя нумары бюлетэняў «Права на волю», канфіскаваныя падчас вобыску ў памяшканьні Праваабарончага Цэнтру «Вясна», перавышалі наклад 300 асобнікаў, што зьяўляецца парушэньнем Закона аб друку Рэспублікі Беларусь. Аднак падчас канфіскацыі друкаванай прадукцыі ў офісе «Вясны» супрацоўнікі міліцыі не пазначылі ў пратаколе колькасьць канфіскаваных бюлетэняў. У судовай справе фігураваў яшчэ адзін пратакол, які міліцыянты склалі ў памяшканьні РАУСу Цэнтральнага раёну. Падчас складаньня гэтага пратаколу не прысутнічалі ні А.Бяляцкі, ні іншыя супрацоўнікі «Вясны». А.Бяляцкі на судовым паседжаньні сьцвярджаў, што пакольні ніхто з супрацоўнікаў «Вясны» не прысутнічаў пры падліку колькасьці асобнікаў бюлетэня, а ў першым пратаколе колькасьць бюлетэняў адсутнічае, можна лічыць, што доказы праваапарушэньня адсутнічаюць.

Пасьля разгляду справы судзьдзя Анатоль Барысёнак прызнаў А.Бяляцкага вінаватым у парушэньні Арт. 172.1, ч.8 КаАП РБ і прыцягнуў яго да адміністратыўнай адказнасьці ў выглядзе штрафу памерам 10 мінімальных заробкаў, а таксама ў сваім рашэньні судзьдзя А.Барысёнак пастанавіў зьнішчыць бюлетэні, колькасьць якіх перавышае 300 асобнікаў.

*26 лістапада* не адбылося падпісаньне саюзнай дамовы паміж Расіяй і Беларусьсю ў сувязі з хваробай прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Барыса Ельцына.

*28 лістапада* ў в. Вызна (Салігорскі раён Мінскай вобласьці) затрыманыя каля 100 чалавек удзельнікаў вандроўкі па мясьцінах, зьвязаных з падзеямі Слуцкага збройнага чыну. Штогод сябры дэмакратычных партыяў і рухаў Беларусі ў лістападзе адзначаюць угодкі збройнага антыбальшавіцкага паўстаньня ў Слуцку, якое адбылося ў 1920 годзе. Па сёлетняй праграме быў заяўлены мітынг памяці ў г.Слуцку і ўскладаньне вянкоў да будынку Дваранскага сходу, ў якім у 1920 г. было абвешчана, што Слуцкі збройны чын зьяўляецца адзінкай арміі Беларускай Народнай Рэспублікі. Мітынг і ўскладньне вянкоў праходзілі пад пільным наглядам міліцыі і АМАПу, прысланага з Мінску. Далей удзельнікі вандроўкі рушылі ў вёску Вызна, шмат жыхароў якой загінулі падчас паўстаньня. У Вызне планавалася ўскласьці кветкі і вянкі да месца, дзе некалі стаяў Крыж ў памяць загінуўшых паўстанцаў. На мяжы Слуцкага і Салігорскага раёну вандроўнікі былі сустрэтыя дзьвюмя машынамі міліцыянтаў, якія суправаджалі іх да Вызны. У Вызне аўтобусы з удзельнікамі вандроўкі былі спыненыя на пляцоўцы каля скверу, адкуль міліцыянты прапанавалі ўдзельнікам вандроўкі дайсьці да царквы пешкі. Што і было зроблена. Літаральна праз некалькі хвілінаў да ўдзельнікаў вандроўкі падышоў начальнік горрайаддзела Салігорску Анатоль Нізкі, які абвінаваціў людзей ў несанкцыянаваным шэсьці і мітынгу, пасьля чаго прапанаваў усім сесьці ў аўтобусы і кіравацца за міліцэйскімі машынамі ў г.Салігорск у райаддзел міліцыі. У выніку, на двух удзельнікаў паездкі – Валянціна Баранава і Міколу Анцыповіча (заказчыкаў аўтобусаў) былі складзеныя пратаколы, як на арганізатраў несанкцыянаваных шэсьця і мітынгу. Нягледзячы на тое, што прадстаўнік Праваабарончага Цэнтру "Вясна" Барыс Гюнтэр тлумачыў сп.Нізкаму, што гэта была звычайная вандроўка, якая ня мае нічога агульнага ані з мітынгам, ані з шэсьцем. Удзельнікі вандроўкі зразумелі — для мясцовых уладаў важна было спыніць вандроўку, што і было дасягнута.

*30 лістапада,* пасьля васьмімесячнага зьняволеньня, з-пад варты пад падпіску аб нявыездзе быў адпушчаны былы прэм'ер-міністр РБ, кандыдат у прэзідэнты краіны, вязень сумленьня Міхаіл Чыгір. Несумненна, адбылося гэта пад ціскам міжнароднай супольнасьці і найперш АБСЕ. Улады паведамляюць, што суд над М.Чыгіром можа адбыцца ў бліжэйшы час.

**Інфармацыйны аддзел «Вясны»**

# За перформанс — два гады зьняволеньня...

*(Пачатак на стар. 3)*

экспертызы да акцыі Пушкіна, сьпецыяліста ў мастацтве ўсё ж выслухалі.

Віктар Пятроў, які даўно ўжо дасьледуе такі жанр як перформанс (публічнае мастацкае дзеяньне), прылічвае да гэтага жанру і дзеяньні падсуднага-мастака. Праўда, у Алеся перформанс мае палітычны падтэкст, але ж мастак мае права адлюстроўваць як сваю фантазію, так і рэчаіснасьць. В.Пятроў распавёў, што падобныя рэчы ён сам назіраў у Парыжы, а, увогуле, гісторыя жанру перформансу мае прыклады нашмат больш спрэчных для густаў гледачоў акцыяў... У выпадку ж з Алесем Пушкіным спрэчным можа быць толькі ўспрыманьне гэтага твору, улічваючы розныя палітычныя прыхільнасьці гледачоў. Дарэчы, усе, хто 21 ліпеня ў 12 гадзінаў быў каля рэзідэнцыі Лукашэнкі, памятаюць: некалькі мінакоў пастаўіліся да пушкінскага перформансу станоўча, некалькі – абыякава, і толькі адна жанчына, што прывезла Лукашэнку скаргу на чыноўнікаў, пачала дыскусію (у прыстойных межах, без абразаў).

Нягледзячы на карэктнасьць і ўважлівасьць судзьдзі Хрыпача за ягоным спакоем была бачная наканаванасьць. Асабліва відавочна было гэта па выразе твару чалавека ў мантыі тады, калі ён слухаў прамовы абаронцаў. Было б дзіўна, калі б гэты рэжым прызнаў Пушкіна невінаватым... Мастак атрымаў 2 гады зьняволеньня з двухгадовай адтэрміноўкаю. Адныя лічаць такі прысуд перамогай, іншыя – паразай. Ва ўсім гэтым працэсе, які больш чым судовы працэс, ёсьць прысуд часу і гісторыі – з адтэрміноўкамі іншага кшталту. Магчыма, плакаты са словамі: "Да дня дня нараджэньня Пушкіна засталося..." у вольнай Беларусі зьявяцца нават і не праз 200 гадоў, а значна раней...


А Пушкін у зале суда.

А пакуль можна канстатаваць: Пушкін быў асуджаны выключна на ўласных шчырых прызнаньнях (калі адкінуць фактар перадвызначанасьці прысуду і тэлефоннага права). Пратаколы аб затрыманьні мастака 21 ліпеня былі аформленыя з парушэньнямі; канфіскаваныя ў яго вазок, вілы, іншыя рэчы так і не былі прадстаўленыя ў якасьці рэчавых доказаў. І, дарэчы, ніводная з гэтых рэчаў дагэтуль ня вернутая ўладальніку.

**Тацяна СЬНІТКО**

## Алесь БЯЛЯЦКІ

# Усяго толькі суткі,

### альбо Рэпартаж з міліцэйскае "дзяжуркі"

17 лістапада, у чацьвер зранку я патэлефанаваў маёру Прузану, начальніку аддзела па ахове грамадзкага парадку Цэнтральнага раёну Мінску. Менавіта ён паўтары месяцы таму забіраў на офісе Праваабарончага Цэнтру «Вясна» кампутарнае абсталяваньне. Папярэдне мы дамовіліся, што той кампутар, які належыць асабіста мне, міліцыянты мусяць аддаць менавіта ў гэты дзень. Пасьля маіх настойлівых просьбаў,нейкім няпэўным голасам маёр прызначыў сустрэчу на "пасьля абеду". Мяне гэта насьцярожыла, але я сьпісаў ягоную нехаць на нежаданьне прызнаваць уласныя "праколы".

Па кампутар паехалі з Віктарам А., які даглядае нашую апаратуру, і з Алесем Д. на ягонай машыне. Перад гэтым Віця бурчэў, мауляў, што гэта за справы такія: міліцыянты забралі тэхніку, дык няхай самі і вязуць яе назад. Мы адкінулі гэты варыянт, бо давялося б чакаць яшчэ некалькі месяцаў, пакуль бы яны прывезьлі кампутар. А працаваць трэба.

Маёр Прузан узяў нашыя паперы ды пайшоў да начальніка на зацьверджаньне, а, як потым высьветлілася, і ня толькі дзеля гэтага. Кампутар выставіў ягоны намесьнік, нейкі худы рудаваты маёр, проста на падлогу ў калідоры: «Забірайце». «Будзем правяраць», — адказаў я. Ён зьдзівіўся: «А што там правяраць, калі ён у нас на складзе стаяў». «А халера яго ведае, што там кадэбэшнікі з ім зрабілі» — не пагадзіўся я. Тады маёр знайшоў нейкую разетку на калідоры, дзе Віця і падключыў кампутар. Той запрацаваў і гэтым мы задаволіліся. «Хадземце, расьпіску напішаце» – прапанаваў маёр. Я пайшоў з ім, а хлопцы панесьлі кампутар у машыну. У канцы расьпіскі маёр прапанаваў напісаць, што прэтэнзіяў да міліцыі я ня маю. «Маю, маю, — адказаў я,— вось хай пракуратура з вамі разьбіраецца, на якой гэта падставе вы забралі маю маёмасьць з кватэры, якую я афіцыйна здымаю». Маёр сумеўся, але папрасіў пачакаць, бо Прузан, ягоны начальнік, нешта яшчэ мае да мяне.

Праз пару хвілінаў увайшоў маёр Прузан. «А зараз, Аляксандр Віктаравіч, — сказаў ён, крыва пасьміхаючыся, — я хачу вам паведаміць «принеприятнейшее известие» — загадана даставіць вас у Савецкі РАУС».

«Эх, Анатоль Іванавіч, падставілі вы мяне. Хіба не маглі папярэдзіць пра гэта па тэлефоне?» – паіранізаваў я. «А вы хіба ня ведаеце, Аляксандр Віктаравіч, што тэлефоны праслухоўваюцца?» – пытаньнем на пытаньне адказаў ён.


Алесь БЯЛЯЦКІ

«Вось дык і забраў кампутар», — падумаў я. Мы выйшлі з РАУСу. Прузан пайшоў папярэдзіць маіх сяброў пра гэтую «непрыемнасьць», а мы з ягоным рудым намесьнікам селі ў «козьлік» і паехалі да завулку Я.Коласа, 3.

Па дарозе я думаў пра тое, што арышт быў відавочна не ініцыятывай маёра Прузана ці начальніка Цэнтральнага РАУСу. «Аперацыя» па "захопе" распрацоўвалася ў нейкіх вышэйшых колах. У гэты самы час праходзіў саміт у Стамбуле, куды паехаў Лукашэнка «рубіць вакно ў Эўропу», але ягоныя папіхачы тут, на месцы, ня вытрымалі. Атрымлівалася, што я сам ішоў да іх у рукі, а яны ж, мабыць, былі злыя на мяне за тое, што першыя два тыдні пасьля шэсьця 17 кастрычніка ніяк не маглі злавіць. Вось жа зараз вырашылі адыгрaцца.

У Савецкім РАУСе мяне рэгістраваў нейкі здаровы, конепадобны старэйшы лейтэнант. Ягоны сусед, чарнявы капітан пазнаў мяне. «Штосьці вас усіх да нас звозяць» – заначыў ён. «Бо іншыя РАУСы ня хочуць зьвязвацца» — адказаў я. «Мы ж не вінаватыя»,— не хаваючыся, пачаў апраўдвацца ён. Я шчыра паківаў галавою. Гэта ўжо дакладна, загад пра маё затрыманьне аддавалі, пэўна ж, не супрацоўнікі гэтага РАУСу.

Мяне пасадзілі спачатку на крэсла ў дзяжурцы. Побач сядзела нейкая кабета, якая бесперастанку гаварыла. Я прыслухаўся і зразумеў, што яна ціхая вар'ятка. Кабета нібыта камусьці тлумачыла пра сапраўднае лінгвістычнае значэньне расейскіх матаў. Затым мяне адсадзілі ў «абязьяньнік» — закратаваную камеру з вузкімі цэментовымі лаўкамі, якія былі халодныя і на якіх нельга было ніяк прыладкавацца. Разам са мной сядзеў худы вусаты мужычок у шапцы-"пеўніку", які, як высьветлілася, атрымаў пятнаццаць сутак за тое, што паганяў суседку. «Абязьяньнік» лепшы за закрытую камеру тым, што ён праветрываецца і ў ім ня так сумна. З яго можна назіраць за тым, што адбываецца ў дзяжурнай частцы.

Цэлы калейдаскоп асобаў прайшоў перад маімі вачыма.

Вось прывялі здаровага, пад два метры, з чырвоным насатым тварам хлопца. Атрымаў сем сутак за парушэньне адміністратыўнага нагляду пасьля зоны. У скуранай кароткай куртцы, у стыльных туфлях, хаця на вуліцы ўжо сьнег. Праз гадзіну прыйшла ягоная жонка – высокая і вялізная, як дзежка, маладая кабета. Прынесла паесьці. Ён стаіць, скардзіцца ёй, што зусім не чакаў такога павароту, лепш бы зусім не пайшоў адзначацца. «У мяне ж у машыне тавару на дзьве тысячы марак, а хто справаздачу складаць будзе? Дакладна з працы пагоняць», — па-сапраўднаму плачацца ён. А я гляджу на ягоныя вялізныя кулакі, накачаныя вазелінам. Жонка абняла яго, сама сьлязу пусьціла, суцяшае. Хлопец спрабуе патлумачыць ўсю несправядлівасьць дзяжурнаму міліцыянту. «А я што, — кажа той, — мая справа маленькая, не я ж вам суткі даваў».

Затым прывялі трох азербайджанцаў. Гэтых, хутчэй за ўсё, затрымалі за парушэньне пашпартнага рэжыму. Дробныя, порсткія, яны жыва абмяркоўваюць штосьці пасвойму. «Прыязджаеце сюды толькі жраць і ср...!» – нязлосна крычыць на іх дзяжурны міліцыянт і распіхвае па розных камерах. Неўзабаве да аднаго з іх прыходзіць жанчына — маладая, мажная, бялявая кабета. Прынесла паесьці. «Ну што, — жартуюць дзяжурныя, — калі да мужа паедзеш жыць?» «Ні за што, — а-казвае яна,— у іх там вайна». «Едзь, едзь,— працягвае старэйшы лейтэнант,— будзеш умацоўваць іхні род». «Не, хай лепш ён мой умацоўвае», — адказвае кабета. «А колькі вы ўжо знаёмыя? — пытаецца міліцыянт. «Тры гады,— адказвае кабета, — ужо ажаніліся б, але праз Маскву ніяк пашпарт атрымаць ня можам».

Міліцыянт перадае ў камеру яе хлопцу ежу, а пасьля таго, як той пад'еў, астатняе аддае ў іншую камеру ягоным землякам.

*(Працяг будзе)*

**Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96".**
**Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў.**
**Адрас рэдакцыі: 220013 Менск, а/с 49. E-mail:Vaisna 96@open. by Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.**
**Пры перадруку абавязковая спасылка на бюлетэнь.**

*У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву Цэнтру "Вясна-96"*